

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

**ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №13 (82)**
**ВЕРАСЕНЬ 2018 ГОДА**

**НІГІЛІЗМ**

## ПАРЭШТКІ РЭПРЭСАВАНЫХ ПАХАВАЛІ Ў МАЗАЛАВЕ

**Не прыняўшы да ўвагі сьведчаньні і ўспаміны старажылаў, доказы актывістаў ініцыятывы «Хайсы — віцебскія Курапаты» і меркаваньні навукоўцаў, чыноўнікі адмовіліся прызнаць, што ў лесе каля вёскі Хайсы сталінскім часам адбываліся расстрэлы.**

З паведамленьня ад 28 жніўня на сайце газэты Віцебскага раёну «Жыццё Прыдзвіння» грамадзкасьць даведалася, што парэшткі 302-х грамадзянаў, знойдзеныя ва ўрочышчы Хайсы, пахаваныя на цывільных могілках «Хмарскія» ў Мазалаве. Нікога з сяброў ініцыятывы «Хайсы», датычных да абнародаваньня факту наяўнасьці незарэгістраваных пахаваньняў у лесе, якія дзясяткі гадоў да таго рабавалі чорныя капальнікі, са зразумелых прычынаў не запрасілі.

Уражвае цынічная ўпартасьць уладаў абвяргаць, што знойдзеныя ў лясным масіве парэшткі належаць ахвярам сталінскіх рэпрэсіяў. Аднак калі не прызнаваць гэты факт за аб'ектыўную рэальнасьць, тоякіммасавымпсыхозам тады можна вытлумачыць сьведчаньні больш як трыццаці мясцовых жыхароў, публічна заявіўшых, што з даваенных часоў усе вяскоўцы ведалі: побач зь вёскай расстрэльвалі гэтак званых «ворагаў народу». Заключэньне старшага навуковага супрацоўніка АН Алега Іова, які разам з вайскоўцамі 52-га пошукавага батальёну браў удзел у эксгумацыі парэшткаў і які перакананы, што ў магілах косткі рэпрэсаваных, таксама ігнаруецца.

Увосень 2016 году на вайсковым пахаваньні №4429, што на станцыі Лужасна, улады ўжо пахавалі парэшткі 172-х невядомых асобаў, паднятых за год да таго ва ўрочышчы Хайсы вайскоўцамі пошукавага батальёну. Тады ці то ад неўсьвядомленага страху, ці то ад жаданьня схаваць магілы як мага далей ад чалавечых вачэй, іх пахавалі ў нязручным для наведваньня месцы.

Сёлета парэшткі «мірных грамадзянаў» пахавалі на грамадзянскіх могілках, бліжэй да цывілізацыі, дзе, паводле казённай лёгікі ці зь нейкіх ідэалягічных прычынаў, ім самае месца. Нажалобную цырымонію, як і двума гадамі раней запрасілі толькі ідэалягічна правераны кантынгент з «прадстаўнікоў раённай улады, вайскоўцаў, мясцовых жыхароў ды моладзі». Быў на мерапрыемстве і праваслаўны сьвятар. Лягічна было б запрасіць і каталіцкага ксяндза, але не запрасілі. Відаць, асаблівай веры да прадстаўнікоўрымскага хрысьціянства ў тутэйшага кіраўніцтва няма.

Як вынікае з паведамленьня на сайце названай газэты, прадстаўніца райвыканкаму падчас свайго выступу падкрэсьліла, што «архіўна-дасьледчыцкая і пошукавая праца па выяўленьні дакладнага часу пахаваньня нявінна забітых грамадзянаў працягнецца», але ніводнай згадкі пра ахвяраў сталінізму ў тэксце вы ня знойдзеце. Прычым націск зроблены чамусьці нават не на ахвярах войнаў, якім згодна з афіцыйнай вэрсіяй і належаць парэшткі, а на ахвярах узброеных канфліктаў. Але тое дробязі – галоўнае, што ў нас «ніхто не забыты і нішто не забытае». Шмат казёншчыны ў выступах, у ацэнках, ва ўчынках ды мала шчырасьці і праўды.

Кажа кіраўнік ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў:

– Грамадзянская супольнасьць Віцебшчыны абураная. Ідэалягічныя нашчадкі тых, хто ўжо аднойчы без суду і сьледства таемна забіў гэтых людзей, цяпер чыняць супраць іх гістарычную несправядлівасьць. Мірыцца з гэткімі фактамі мы не зьбіраемся. Па ўсёй Беларусі ўлады аднолькава абыякава ставяцца да памяці ахвяраў сталінізму. Тое, што цяпер адбываецца ў Курапатах у сувязі з пабудовай забаўляльнага комплексу, і тое, што адбываецца вакол парэшткаў рэпрэсаваных у Хайсах – падзеі аднаго сутнаснага парадку. Знаходкі ў Курапатах ужо аднойчы ўскалыхнулі ўсю краіну, і дарэмна ўлады ігнаруюць сакральнае стаўленьне беларусаў да сваіх продкаў, тым больш да несправядліва забітых у выніку дзяржаўнага тэрору.

**Ян Сведка**

**НАЦЫЯНАЛЬНЫ СУПРАЦІЎ**

## ЯК СКРАЛІ БЮСТ СУВОРАВА

**Такія ночы, як была тады ў Віцебску, прынята называць вераб'інымі, бо неба аж да ранку праціналі маланкі. Раніцай 1 верасня работнікі мясцовага ваенкамата са здзіўленнем пабачылі, што з пастамента, які стаяў насупраць будынку, знік бюст расійскага генералісімуса Суворава.**

На тым месцы была знойдзеная запіска: «У 1794 годзе Сувораў утапіў у крыві паўстанне беларусаў за незалежнасць... Помнікі Суворава ў Беларусі — гэта ганьба беларускаму народу». Гіпсавы помнічак, хай і нягеглы на выгляд, важыў больш за 300 кілаграмаў. Звычайны чалавек не падыме такую масу, працавала ці група людзей, ці падганялі транспарт.

Бюст на гэтай вуліцы з'явіўся яшчэ ў 1952 годзе. Імя скульптара гісторыя не захавала. Нічым не адметны помнік, у самім Віцебску Сувораў ніколі не быў. Газета «Свабодныя навіны» падлічвала, што па стане на 1998 год вуліцы Суворава былі ў 35 гарадах Беларусі і 24 пасёлках, 23 калгасы насілі яго імя.

З таго часу прайшло ўжо 20 гадоў, а вуліца па-ранейшаму носіць імя расійскага палкаводца. «Я не магу па ёй хадзіць, нібыта па калена ў крыві ідзеш, — расказвае стары віцябчук Барыс Хамайда. — Калі трэба кудысьці ў той бок прайсці, то іду па вуліцы Леніна, і тое не так брыдка. Калісьці менавіта па Суворава дазвалялі шэсці апазіцыі, я на іх не хадзіў».

За старшынствам у Віцебскім аблвыканкаме Аляксандра Косінца вуліцу зрабілі пешаходнай. Ваенкамат перанеслі, а на яго месцы сёння працуе кавярня "Граф Суворовъ". Вядома, што бюст нікуды не дзеўся, яго крыху адрэстаўравалі ў 2008 і вярнулі на ранейшы пастамент.

Адразу па суседстве знаходзіцца Кастрычніцкі РУУС, а за рогам — прыгожы палацык абласнога ўпраўлення КДБ. Усё гранічна блізка і шчыльна. Сёння б тут натыкалі відэакамер, але ў той час пра іх яшчэ мала чулі, таму і стала магчымым дзёрзкае выкраданне Суворава.

У выніку затрыманыя былі трое сябраў суполкі Народнага Фронту «Выбар» Уладзімір Плешчанка, Барыс Хамайда і Юрась Карпаў.

Апошніх двух не пратрымалі ў камеры і сутак, а вось супраць Уладзіміра Плешчанкі было выстаўлена абвінавачванне. Справа ў тым, што ў яго нібыта знайшлі абутак, сляды ад якога былі адпаведныя тым, што знайшлі ля пустога пастамента.

«Аператыўна праведзенае расследаванне выйшла на канкрэтных выканаўцаў. Імі аказаліся трое сумна вядомых суб'ектаў з БНФ, адзін з якіх ужо знаходзіўся на казённым забеспячэнні. Падобна, што вось такім чынам яны вырашылі нагадаць гораду і свету пра сваё існаванне, а заадно і грошыкаў зарабіць. Спадарам, па ўсім бачна, цяпер давядзецца пасядзець. Хлопцам не хочацца на нары, таму яны шукаюць добрага адваката. Хаця з гэтай справай можа справіцца нават практыкант, варта толькі звадзіць „змагароў" да псіхіятра. Што датычыцца бюста вялікага рускага палкаводца, то ён пасля невялікай рэстаўрацыі зойме сваё месца на пастаменце. Віват, Аляксандр Васільевіч!» — пісала ў той час газета «Віцебскі рабочы».

Супраць Плешчанкі была заведзеная крымінальная справа па артыкулах КК 225 «Знішчэнне ці пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў» і 87 «Крадзеж маёмасці». Праўда, у хуткім часе артыкул 87 КК быў адменены, бо бюст быў выраблены не з каштоўнага металу, але Плешчанку выставілі абвінавачанне па арт. 201 ч. 2 КК «Злоснае хуліганства».

«Для Расіі Сувораў, можа, нацыянальны герой. Для нас ён кат. Ён заліў крывёй нашу краіну. Менавіта такая матывацыя была ў Мірона», — кажа Барыс Хамайда.

У судзе, які адбыўся пры канцы сакавіка 1999 года нічога не пацвердзілася. Абвінавачанне не змагло даказаць віну Уладзіміра Плешчанкі. «Не тыя боты былі, яны не пасавалі да нагі Плешчанкі, яны былі такімі аграмаднымі, што ў зале ўсе смяяліся». У выніку Плешчанку і не апраўдалі, і не асудзілі, справу адправілі на дапрацоўку. Больш да яе ні слаўкі, ні судовыя работнікі ніколі не вярталіся. Але ніхто не ведае, у якім стане яна знаходзіцца сёння.

**Наша Ніва**



**ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ**

## СТЫХІЙНЫ СТРАЙК

**Стыхійны страйк працаўнікоў Сеньненскага раённага ўнітарнага прадпрыемства жыллёва-камунальнай гаспадаркі адбыўся з прычыны малых заробкаў. Будаўнікі рамонтна-будаўнічага ўчастку не пажадалі мірыцца з тым фактам, што сёлета яны зарабляюць меней за некваліфікаваную прыбіральшчыцу.**

16 жніўня работнікі ўсёй брыгадай прыйшлі да будынку адміністрацыі прадпрыемства, каб выказаць свае прэтэнзіі кіраўніцтву. Як распавядаюць працаўнікі, яны робяць усё як мае быць і плян выконваюць, а праблемы з заробкам цягнуцца аж ад студзеня. Так, непасрэдны заробак аднаго з працаўнікоў за красавік склаў 16 рублёў 97 капеек.

Аляксей Куц, які ня першы год працуе будаўніком, а ў ЖКГ займаецца рамонтам і пабудовай дахаў, у якасьці асноўнага заробку за месяц атрымаў 67 рублёў. Яму даплачваюць да пражыцьцёвага мінімуму, але гэта ня тыя грошы, на якія можна сёньня жыць. Працоўны, аналізуючы свой разліковы квіток, іранізуе:

– Пэўна, тым ня менш я добра працаваў, бо ёсьць прэмія – 34 рублі, і за майстэрства налічылі 12 рублёў. З прычыны малых заробкаў мы неаднаразова зьвярталіся да нашага кіраўніцтва, але яно толькі абяцае.

*(працяг на стар. 2)*

ПРАВЫ ПРАЦОЎНЫХ

*(пачатак на стар. 1)*

Ня ведаю, зь якой прычыны, але дырэктары ў нас надоўга не затрымліваюцца. Паўгода папрацуюць, і прыходзіць новы.

– Як людзям выжыць? Я за месяц зарабляю 44 рублі, дык што я на працы тады раблю? Сяджу? А ў каго сям'я, дзеці, крэдыты... Як жыць? Сад, школа – заплаці, – абураецца малады бацька.

– Мы ня ведаем, як нам выжываць у гэтай сытуацыі за гэтыя капейкі. Так немагчыма жыць. Катастрофа поўная. Кіраўніцтва нешта вырашае, нейкія сходы зьбірае, але ад гэтага ніякага толку няма, – дадае працаўніца.

– Вось мой прамы заробак за месяц – 64 рублі 17 капеек. Як пракарміць сям'ю, дзяцей, калі я за інтэрнат плачу 110 рублёў? Так, мне да пражыцьцёвага мінімуму дадаюць, але і на гэтыя грошы ці можна пражыць? Палову за інтэрнат аддаеш, плюс садок, школа. Аб'ёмы працы выконваеш вялікія, ірвеш кішкі, цяжкая праца – падымаць дах. Здаецца, мы павінны зарабляць нармалёва, але ж нічога не атрымліваем. Я ня ведаю, як жыць далей. Вось і ўсё, – разгублена кажа працаўнік.

Дарэйка Леанід, будаўнік са стажам, тлумачыць настрої ў брыгадзе:

– Можна пайсьці да прыватніка, я бачыў абвестку: прымае на працу будаўнікоў, абяцае 25 рублёў штодзённа. Выходзіць, за два дні я перакрыю свой месячны заробак. Мне плаціллі па 16 рублёў, 32 рублі, 50 рублёў, 40 рублёў, апошні месяц далі добра – ажно 67 рублёў наўпроставага заробку, здаецца. Прыватнік будзе плаціць 25 рублёў у дзень, вось мы і думаем усёй брыгадай пераходзіць, пэўна, да прыватніка. Маю вялікі досьвед працы: і Маскву будаваў, і Менск будаваў, і дзе я толькі ня быў. І на поўначы быў, і паўсюль быў у пашане! Граматы ёсьць адусюль, і зь Віцебскага сельбуду таксама, што я – адзін з найлепшых працаўнікоў. Досьвед працы – велізарны. У мяне ўжо пэнсія на плячох. Што я магу яшчэ дадаць?

Кіраўнік рамонтна-будаўнічага ўчастку Рыгор Рэйтар кажа, што як працуюць, так і атрымліваюць. А мы, мяркую, аплачваем па расцэнках ЖКГ. Праўда, на прэтэнзію людзей патлумачыць, чаму ў суседніх Бешанковічах працаўнікі падобнай брыгады ЖКГ атрымліваюць у разы болей, ён ня змог.

Людзі зьняверыліся і не спадзяюцца на тое, што ім нехта дапаможа. Але кволая надзея ўсё ж зьявілася: 23 жніўня на сустрэчы ў Віцебскім аблвыканкаме актывістка БХД Алена Шабуня распавяла чыноўнікам пра становішча з выплатай заробкаў у Сеньненскай ЖКГ. Неўзабаве прадстаўнікі аблвыканкаму наведалі Сянно, каб на месцы разабрацца з праблемай.

**Якаў Дрозд**

ЗЛАЧЫНСТВЫ

# ВИНОВНА В РАСТРАТЕ И ПРИСВОЕНИИ

**22 августа суд Витебского района признал 22-летнюю продавщицу одного из сельских магазинов виновной в присвоении и растрате имущества.**

Женщина работала в магазине с 26 сентября 2017 года. Ка доказано в суде, по состоянию на 6 марта 2018 года в ее магазине образовалась недостача в размере 3502 рублей 76 копеек. Хотя раньше сообщалось о сумме в 8900 рублей.

Продавщица отпускала покупателям магазина товар без немедленного расчета — на доверие, а также она брала деньги из кассы для собственных нужд.

На суде обвиняемая, которая воспитывает маленького ребенка, полностью признала свою вину и подробно рассказала об обстоятельствах совершенного ею преступления, согласившись с результатами инвентаризаций и суммой причиненного ее действиями ущерба.

Суд признал ее виновной в присвоении и растрате имущества лицом, которому оно вверено, и на основании части 1 статьи 211 УК приговорил к лишению на 3 года права занимать должности, связанные с хранением и распоряжением материальными ценностями и денежными средствами, а также к штрафу в размере в 1470 рублей.

В пользу предприятия с бывшей продавщицы взыскали 1 647 рублей 28 копеек в счет возмещения имущественного вреда, причинённого преступлением.

Приговор в законную силу не вступил и может быть обжалован и опротестован в установленном законом порядке, сообщает пресс-служба Витебского областного суда.

**Народныя Навіны Віцебска**

КУЛЬТУРА

# ФЕСТИВАЛЬ «ВОЛАТЫ ПРЫДЗВІННЯ»

**Кошелек размером с чемодан, двухметровый молоток и цирковой велосипед выше человеческого роста можно было увидеть на фестивале «Волаты Прыдзвіння» в Витебском районе.**

Гости праздника, который проходил на территории санатория «Железнодорожник» в д. Малые Лётцы, чувствовали себя словно в сказке, главным героем которой является великан. Огромная парта, яблоко размером с гигантскую тыкву, свеча с бревно, прищепка, на которую можно прилечь и зонт, под которым в случае дождя могут спрятаться около десятка человек... А кто откажется примерить огромный цилиндр или ботинок, который впору только богатырю Федору Махнову!

В честь известного земляка, прославившегося своим выдающимся ростом 285 см, на его родине в Витебском районе и устроили масштабный во всех смыслах праздник. Интерактивные площадки, мастер-классы, гиревой батл и исторический фотосалон, но самым зрелищным и интересным событием фестиваля стало открытие Парка великанов, где представлены гигантские арт-объекты, с которыми с удовольствием фотографировались взрослые и дети. Изготовлением великанских атрибутов занимались участники специального конкурса среди учреждений образования, которых наградили на празднике. Победителями признали Кировскую среднюю школу, которая представила кованый цирковой велосипед.

**Витебские вести**

РЭКВИЕМ

# У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯРАЎ ТЭРАРЫЗМУ

**У Міжнародны дзень памяці і ўшанаваньня ахвяраў тэрарызму (21 жніўня) грамадзкія актывісты і жыхары Віцебску аддалі даніну памяці рэпрэсаваным за часамі сталінізму беларусам, забітым ва ўрочышчы Хайсы пад Віцебскам.**

У кастрычніку 2014 году пра даваенныя пахаваньні рэпрэсаваных у лесе ля вёскі Хайсы даведалася ўся краіна. З таго часу мінула амаль чатыры гады, але ўлада па-ранейшаму адмаўляецца прызнаваць забітых ахвярамі сталінскага рэжыму.

Адзінае, што застаецца прадстаўнікам грамадзянскай супольнасьці, — рабіць сваю справу па ўшанаваньні памяці нявінна забітых беларусаў. 21 жніўня грамадзкія актывісты і сваякі рэпрэсаваных прыйшлі ў хайсоўскі лес, каб ускласьці кветкі да памінальных крыжоў і нагадаць грамадзтву пра ахвяраў дзяржаўнага тэрору.

Старшыня грамадзянскай ініцыятывы «Хайсы» Ян Дзяржаўцаў патлумачыў:

— Сёньня мы прыйшлі сюды, каб ушанаваць іх сьветлую памяць. Сваімі ўчынкамі мы дэманструем, што ставімся да рэпрэсаваных ня як да ворагаў народу, а як да бязьвінна пацярпелых пад час сталінскага тэрору. У гэтыя дні мы штогод прыяжджаем сюды. Улады адмаўляюцца прызнаваць, што іх папярэднікі расстралялі тут бязьвінных людзей, але ад сьведчаньняў мясцовых жыхароў нікуды не падзецца. Мы іх разумеем: яны — нашчадкі той злачыннай савецкай улады. І як ім прызнаца, што іхныя папярэднікі былі злачынцамі?

Гэтым разам урочышча Хайсы наведаў і Анатоль Давыдовіч — унук расстралянага ў Віцебскай турме Антона Давыдовіча 1886 году нараджэньня, жыхара Шумілінскага раёну. У той дзень, 13 ліпеня 1938 году, расстралялі яшчэ 76 чалавек.

Анатоль Давыдовіч праз сьлёзы кажа:

— Закапаць такую колькасьць людзей недзе ў Віцебску немагчыма. Я мяркую, што яны мусяць ляжаць недзе недалёка ад гораду, у лесе. Зараз у мяне ідзе ліставаньне з КДБ гораду Віцебску. Каб прачытаць справу свайго дзеда, я мушу дакумэнтальна даказаць тое, што я ўнук свайго дзеда, а мой бацька — ягоны сын. Усе старэйшыя за мяне родныя памерлі. І адзінае, што ўдалося адшукаць, — мэтрыкі майго роднага дзядзькі. Цяпер трэба давесьці, што мой бацька і дзядзька — родныя браты.

З расповедаў бацькі я даведаўся, што дзеда забралі па надуманым абвінавачваньні. Ён быў калгасьнікам і недзе публічна заявіў, каб старшыня калгасу вярнуў калгасны ровар. Старшыня ровар не вярнуў, а дзеда ўначы забралі. Сёньня прыехаў паглядзець на імавернае месца дзедавага пахаваньня.

**Ян Сведка**

СУДОВЫ ПЕРАСЬЛЕД

# АКТЫВІСТКУ АШТРАФАВАЛІ

**«Дэманстратыўна стаяла каля брамы рэстарану». Так гучаў асноўны аргумэнт, які пацягнуў на штраф для атывісткі зь Віцебскага раёну за варту ў Курапатах.**

Судзьдзя віцебскага раённага суду Міхаіл Зубеня 5 верасьня прысудзіў 12 базавых велічыняў (294 рублі) штрафу віцебскай актывістцы аргкамітэту партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» Алене Янушкоўскай.

Паралельна ў Першамайскім судзе Віцебску праходзілі працэсы над іншымі актывісткамі БХД — Тацянай Севярынец і Ірынай Захаравай. Усе яны бралі ўдзел 8 жніўня ў так званай варце каля рэстарана «Паедзем паядзім», што ў Курапатах.

Акцыя каля рэстарану цягнецца ўжо некалькі месяцаў — людзі пратэстуюць супраць працы забаўляльнай установы побач зь месцам пахаваньня ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў.

Зь Менску па дарозе дадому Янушкоўская і Захарава былі затрыманыя і дастаўленыя ў Бараўлянскі пастарунак, дзе на іх склалі пратаколы. Янушкоўскай паставілі ў віну тое, што яна, паводле словаў судзьдзі, «дэманстратыўна стаяла каля брамы рэстарана „Паедзем паядзім" зь бел-чырвона-белым сьцягам», чым, на думку аўтараў пратаколу, «публічна выказвала сваё стаўленьне да функцыянаваньня гэтага рэстарану» і, такім чынам, парушыла частку 1 артыкулЗ 23.34КаАП(парушэньнепарадку арганізацыі або правядзеньня масавых мерапрыемстваў).

На судовае паседжаньне Алена не змагла прыйсьці, а таму адміністрацыйная справа разьбіралася вельмі хутка. Судзьдзі спатрэбілася ўсяго 15 хвілін, каб разабрацца ва ўсіх матэрыялах, прагледзець відэазапіс, азнаёміцца з заявай актывісткі аб прычынах няяўкі.

Адметна, што Алена адсутнічала на працэсе, а судзьдзя асабіста зь ёй не знаёмы і ніколі не бачыў у вочы, таму ў прысутных у залі ўзьнікла пытаньне: як судзьдзя мог яе ідэнтыфікаваць на відэазапісы. Але Зубеня ніяк не пракамэнтаваў прагледжанае відэа.

На судзе павінны былі яшчэ выступіць сьведкі-міліцыянты Міхалевіч і Новік, але яны таксама не зьявіліся, спаслаўшыся на немагчымасьць прыехаць зь Менску.

**Уладзімер Бяляўскі**
**Віцебская вясна.**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





БЕЛАРУСЬ – РАСІЯ

# УЛЬТЫМАТУМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

**Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі.**




Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін сустракаліся ў чэрвені — дзеля гэтага кіраўнік Расіі нават прапусціў матч сваёй зборнай з Егіптам на Чэмпіянаце свету па футболе. У ліпені Пуцін запрасіў беларускага калегу на сустрэчу. Той не ехаў амаль месяц, і ўрэшце выправіўся ў Сочы напрыканцы жніўня.

Варта звярнуць увагу на тое, што канкрэтнай інфармацыі па выніках гэтых рандэву — кату па пяту. Па выніках апошняй паездкі Лукашэнкі на пуцінскую яхту прэс-служба кіраўніка дзяржавы не рабіла ніякіх гучных заяў. Толькі праз тры дні Аляксандр Рыгоравіч даў маштабнае інтэрв'ю тэлеканалу «Беларусь-1».

Цалкам можа быць, што затрымка з інфармацыяй была адмысловым ходам: каб прыцягнуць да гэтага інтэрв'ю больш увагі. Але ж яно пакінула больш пытанняў, чым адказаў.

Многія заўважылі, што ці не ўпершыню Лукашэнка адказваў на пытанні журналістаў з паперкай — з гатовымі тэзісамі адказаў. Канешне, гэта звычайная практыка, калі кіраўніку такога ўзроўню спачатку дасылаюцца пісьмовыя пытанні, ён рыхтуе адказы і потым агучвае іх на камеру. Аднак гэта імкнуцца не афішаваць.

Апроч таго, ніякіх рэальных адказаў пра сустрэчу з Пуціным мы не атрымалі. Па сутнасці, інтэрв'ю выглядала апраўданнем беларускага кіраўніка за рэзкія словы, якія ён дазволіў сабе на адрас Расіі раней: «Без Расіі мы нікуды», «Мы — народы з аднаго кораня» і «Расія для Беларусі — анёл-абаронца». Але за салодкагалосай рыторыкай так і не было чуваць, што ж Лукашэнка і Пуцін абмяркоўвалі ў Сочы і чаму расійскі кіраўнік так доўга і ўпарта чакаў беларускага калегу.

Для таго, каб абмеркаваць кандыдатуру новага расійскага пасла? Гэта і аспрэчыў сам кіраўнік Беларусі, што было ці не адзіным сэнсоўным кавалкам яго размовы з тэлевізійшчыкамі.

Палітолагі і аналітыкі лічаць, што нешта на сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна «не зраслося» і «не склеілася». Але, мяркуючы па настойлівасці і цярплівасці Уладзіміра Уладзіміравіча і па наступнаму інтэрв'ю Аляксандра Рыгоравіча, «зрастацца і клеіцца» там не было чаму.

Хутчэй за ўсё, кіраўнік Расіі агучыў «новую эканамічную палітыку» ў адносінах да Беларусі, якая палягае ў словах: «Вучыцеся выжываць самі». Санкцыі ЕС і ЗША моцна б'юць па расійскай эканоміцы. І, падаецца, яны ўжо перакрочылі тую мяжу, калі іх можна было «адкаціць назад». Раней іх прычынай была вайна ва Украіне, а зараз фінансавыя абмежаванні ўводзяцца з-за «справы Скрыпалёў» і расійскага ўплыву на выбары ў заходніх дэмакратыях.

Калі раней можна было вярнуць Крым Украіне і сказаць: «Выбачаемся», то атручаных замежных грамадзян з таго свету не вернеш.

Расіі патрэбныя грошы. Грошы на падтрымку ўладаў марыянетачных рэспублік ва Украіне, Расія загразла ў Сірыі — напрыклад, днямі з'явілася інфармацыя, што РФ накіроўвае дадатковыя сілы на базу ў Хмеймім (хаця яшчэ 11 снежня мінулага года Пуцін урачыста загадваў вывесці расійскія войскі з Сірыі). Плюс санкцыі — і грошай на падтрымку «сяброў» не застаецца. Больш за тое, завязаныя на расійскую эканоміку «сябры» непазбежна атрымаюць аддачу антырасійскіх санкцый па сваёй эканоміцы. Для Беларусі гэтая аддача можа быць вельмі і вельмі балючай.

Расія будзе турбавацца, перш за ўсё, пра сябе. Саюзніку і стратэгічнаму партнёру давядзецца разлічваць на ўласныя сілы і не чакаць падтрымкі (акрамя маральнай). «Падатковы манеўр» Расіі што да карысных выкапняў працягнецца, адзіная нафтагазавая прастора ў межах ЕАЭС — у аддаленай перспектыве, паліва для АЭС прыйдзецца набываць па нармальным кошце. Па ўнутрырасійскіх коштах нафту, газ і ўран могуць атрымаць толькі расійскія рэгіёны, так што калі хочаце — давайце да нас.

Думаю, што Пуцін выклаў усё гэта спакойным дзелавым тонам, абмалёўваўшы сітуацыю, як яна ёсць. І ў якасці першага кроку падтрымкі прапанаваў прыняць пасла Бабіча з паўнамоцтвамі спецпрадстаўніка па эканамічных пытаннях. На што Лукашэнку заставалася толькі пагадзіцца.

Пагадзіцца — і думаць, што рабіць далей. Астатнія канкрэтныя пытанні, калі яны ўзніклі ў Пуціна, Аляксандр Рыгоравіч мог нівеляваць адным чынам: «Трэба параіцца з таварышамі, такія пытанні з кандачка не вырашаюцца». А «таварышы» яшчэ не ўвайшлі ў курс справы. Не выключаю, што нядаўнія маштабныя змены ва ўрадзе былі зробленыя Лукашэнкам не толькі «пасля Оршы», але і з перспектывай ухіліцца ад абмеркавання праблемных пытанняў у размове з расійскім кіраўніком.

Па выніках сочынскай размовы Лукашэнка сказаў, што наступная сустрэча з Пуціным пройдзе ў пашыраным складзе з кіраўнікамі ўрадаў. Меркавана, гэта адбудзецца ў Магілёве ў кастрычніку падчас V Форума рэгіёнаў Беларусі і Расіі.

Такім чынам, кіраўнік Беларусі ўзяў паўзу, каб асэнсаваць новыя рэаліі і паспрабаваць выпрацаваць адказ на новыя выклікі. Хаця месца для манеўра ў яго, падаецца, няшмат.

**Сяргей Пульша**
**"Новы Час"**

НАФТАВАЕ ПЫТАННЕ

# НЯ ДУМАЕ АДМАЎЛЯЦЦА АД ПАДАТКОВАГА МАНЭЎРУ

**Беларусь будзе плаціць за расейскую нафту, як і іншыя краіны... Кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў даў інтэрвію агенцтву Reuters, у якім сярод іншага расказаў пра падатковы манэўр у нафтавай галіне і абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў у Беларусь.**

Адказваючы на пытаньне пра супрацу зь беларускімі партнэрамі, Аляксей Сазанаў прызнаўся, што гэта «складанае пытаньне».

«Мы ў працэсе абмеркаваньня: ці будзе кампэнсацыя, у якім аб'ёме і якія інструмэнты пры гэтым выкарыстоўваць. Але ў любым выпадку гэта павінен быць мэханізм, калі ўсе будуць бачыць, якую суму штогод мы накіроўваем зь бюджэту Расеі на падтрымку Беларусі. Калі мы падавалі падтрымку ў выглядзе дыфэрэнцыялу ў мытах, ніхто гэтага нават ня бачыў, гэта было схаванае субсыдаваньне беларускай эканомікі».

Паводле расейскага чыноўніка, цяпер, калі праводзіцца манэўр, усё «ўсплывае» на паверхню, больш такога схаванага субсыдаваньня ўжо ня будзе. І запэўнівае, што ніякіх міжнародных пагадненьняў Расея пры гэтым не парушыла.

«Раней гэта было „шэрае поле", калі грошы губляў фэдэральны бюджэт Расеі, а атрымлівалі нафтаперапрацоўчыя заводы Беларусі. Цяпер адбываецца значнае „абяленьне" узаемаадносінаў у гэтай часткі, і гэта вельмі добра. Калегі кажуць, што мы несправядліва прынялі „сувэрэннае рашэньне". Аднак зьмена падатковага заканадаўства не рэгулюецца ў рамках пагадненьня аб Эўразійскім эканамічным саюзе. Гэта наша права вызначаць падатковы рэжым унутры краіны, і ў рамках гэтага права мы яго крыху падкарэктавалі».

Паводле Аляксея Сазанава, Расея на «братэрскіх стасунках» страчвала велізарныя сумы: пачынаючы ад сярэдзіны нулявых, гэта больш за трыльён расейскіх рублёў.

**Пра абмежаваньні паставак нафтапрадуктаў**

Беларусь мае прафіцыт па ўсіх нафтапрадуктах за кошт сваёй нафтаперапрацоўкі. Таму ёй выгадна закупляць расейскія нафтапрадукты — больш танныя з улікам таго, што ў Расеі сацыяльна-адказныя нафтакампаніі і кошты ніжэйшыя, чым экспартная альтэрнатыва, патлумачыў кіраўнік падатковага дэпартамэнту Міністэрства фінанасаў Расеі Аляксей Сазанаў.

«Пастаўляючы нафтапрадукты ў Беларусь, расейскі бюджэт недаатрымлівае экспартнае мыта, бо гэтыя нафтапрадукты ідуць на задавальненьне патрэб беларускага рынку. Па сутнасьці, гэта зноў прыхаваная форма субсыдаваньня цяпер ужо ўнутранага рынку краіны. Калі скончыцца манэўр у нафтавай галіне, такога ўжо ня будзе. Пакуль мы ставім пытаньне пра абмежаваньне паставак. Балянс гэты вызначае Мінэнэрга».

Як заявіў чыноўнік, з улікам падатковага манэўру размова можа ісьці пра аб'ёмы паставак ад 100 да 300 тысяч тон за год, але ніяк не пра 2 мільёны, як ёсьць на гэты момант. Паводле Сазанава, летась Расея страціла на такіх пастаўках 10 мільярдаў расейскіх рублёў, а сёлета аналягічную суму толькі цягам паўгодзьдзя.

Як паведамляла Свабода, у ліпені Дзяржаўная Дума Расеі прыняла законапраект аб паступовым скасаваньні мыта на вываз нафты — так званы падатковы манэўр. Гэта азначае, што беларуская эканоміка пазбавіцца вуглевадароднай «іголкі», на якой сядзела больш за 20 гадоў. Расейская нафта для Беларусі будзе каштаваць столькі ж, колькі і для іншых краінаў.

**Беларусь зарабляе мільярды на экспарце нафтапрадуктаў**

Згодна з дакумэнтам, цягам 2019–2025 гадоў Расея паступова зьнізіць экспартнае мыта на сваю нафту зь цяперашніх 30% да нуля. Адначасова павялічыцца падатак на здабычу гэтай сыравіны. Увынiку, адзначаюць экспэрты, Беларусь ня зможа перапрадаваць расейскія вуглевадароды.

Нават пры цяперашніх ваганьнях нафтавых цэнаў Беларусь выйграе да 2,5 мільярда даляраў за год, закупляючы яе ў Расеі — гэта прыкладна 5% працэнтаў ад валавога ўнутранага прадукту.

З 24 мільёнаў тон расейскай нафты прыкладна 6 мільёнаў рээкспартуецца з нацэнкай у краіны Эўразьвязу. Большая частка з астатніх 18 мільёнаў тон пасьля перапрацоўкі ў Мазыры і Наваполацку таксама ідзе на замежны рынак. Усё гэта прыносіла значныя даходы. Але ад наступнага году нафтавыя субсыдыі пачнуць істотна «абразацца».

**"Радыё Свабода"**

КАРУПЦЫЯ

# ФІНТ ВУШАМІ

**Як у Міністэрстве аховы здароўя зьбіраюцца перамагчы карупцыю? Для барацьбы з карупцыяй патрэбен кантроль грамадзтва, а не стварэньне новых бюракратычных структур.**

11 верасьня Аляксандар Лукашэнка на нарадзе аб праблемных пытаньнях у сыстэме аховы здароўя чарговым разам узгадаў тэму карупцыі ў ведамстве. «Карупцыя здараецца ўсюды, але ў ахове здароўя праблема стала ня кропкавай, а скразной, сыстэмнай. Яна закранула не асобных службовых асоб, а закранула практычна ўсю вэртыкаль», — сказаў кіраўнік дзяржавы. І запытаў міністра аховы здароўя Валерыя Малашко: «Вы мне так вось шчыра скажыце — вы здольны кіраваць міністэрствам?»

Але, гледзячы па ўсім, пасьля скандальных затрыманьняў у чэрвені, у сыстэме аховы здароўя мала што памянялася. Пра гэта сьведчыць скандальная гісторыя з закупам не зарэгістраванай у Беларусі карэйскай вакцыны «Эўпэнта». Пасьля яе прымяненьня памерлі двое дзяцей. Два аўкцыёны дзеля закупу вакцыны чамусьці не адбыліся, у выніку міністэрства купіла прэпарат, прычым не зарэгістраваны ў Беларусі, бяз конкурсу ў адной карэйскай фірмы.

Адразу ж пасьля нарады міністар Малашко, камэнтуючы дзяржаўным тэлеканалам захады, якія зьбіраецца рабіць дзеля барацьбы з карупцыяй, заявіў: «Сёньня мы павінны ўводзіць сыстэму і ўнутранай бясьпекі. Гэта ня столькі міліцэйскія функцыі, так скажам, колькі ў першую чаргу дасьледчаньэканамісты, якія будуць кантраляваць сярэдняўзважаныя цэны на тую тэхніку, якая набываецца, лекавыя прэпараты, кантраляваць парадак правядзеньня тых ці іншых працэдур».

Гэта проста клясыка бюракратычнага фінту вушамі. Што трэба рабіць, калі ўзьнікла нейкая праблема? Адказ бюракрата, як правіла, заўсёды аднолькавы: трэба стварыць камісію. У дадзеным выпадку плянуецца арганізаваць у ведамстве новую структуру, якая павінна змагацца з карупцыяй. А калі яна ня ўправіцца з гэтай задачай — то стварыць новую структуру, якая будзе сачыць за першай? Гэта на дадатак да КДБ і іншых шматлікіх праваахоўных і кантрольных органаў. У рамках існай сыстэмы чыноўнік па-іншаму мысьліць проста ня можа.

Між тым мэтады барацьбы з карупцыяй у сьвеце добра вядомыя. Зьвярнуў бы ўвагу толькі на такія рэчы, як празрыстасьць, галоснасьць у дзейнасьці дзяржаўных органаў, а таксама кантроль з боку грамадзтва з дапамогай незалежных мэдыяў.

Але вось якраз гэта для беларускіх ведамстваў, у прыватнасьці для Міністэрства аховы здароўя, абсалютна непрымальна. Узгадайма тую ж гісторыю з карэйскай вакцынай. Як толькі часопіс «Ежедневник» апублікаваў расьсьледаваньне аб прычынах сьмерці дзіцяці ў Ганцавіцкім раёне пасьля прышчэпкі, то Мінздароўя зьвярнулася ў пракуратуру з патрабаваньнем пакараць журналістаў. Маўляў, «фармат падачы і грубае выкладаньне фактаў у артыкулах, апублікаваных на адным з інтэрнэт-рэсурсаў і перадрукаваных іншымі СМІ, могуць нанесьці шкоду нацыянальнай бясьпецы Рэспублікі Беларусь у сфэры аховы здароўя». То бок ня дзеяньні сыстэмы аховы здароўя, у выніку якіх паміраюць дзеці, наносяць шкоду нацыянальнай бясьпецы краіны, а тое, што пра гэта пішуць СМІ! Фэнамэнальная лёгіка.

Праз два дні пасьля публікацыяў пра гэты скандал з карэйскай вакцынай высокія чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя запрасілі журналістаў, каб выказаць сваю пазыцыю. На брыфінг сабралася вялікая колькасьць журналістаў, яны мелі шмат пытаньняў. Аднак чыноўнікі міністэрства зачыталі па чарзе свае заявы і ўцяклі, адмовіўшыся адказваць на пытаньні прадстаўнікоў мэдыяў. Мусіць, ёсьць што хаваць?

Вось якраз непадкантрольнасьць грамадзтву, адсутнасьць зваротнай сувязі з насельніцтвам, закрытасьць і непразрыстасьць, незразумелая сакрэтнасьць і ствараюць глебу для карупцыі. І ніякая новая бюракратычная структура ў рамках ведамства па барацьбе з карупцыяй праблему ня вырашыць.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

ТАКАЯ АДУКАЦЫЯ

# В 10-М КЛАССЕ НУЖНЫ ШЕСТЬ УРОКОВ ТРУДА?

**В белорусские школы возвращается профессиональная подготовка. В учебный план 2018/2019 учебного года для учеников 10-х классов в школах, где все предметы изучаются на базовом уровне, введено трудовое обучение — шесть часов в неделю. Означает ли это возвращение советской системы УПК?**

**В профильных классах уроков труда не будет**

Трудовое обучение по шесть уроков в неделю будет введено только для десятиклассников базовых классов. Для 11-классников это планируется со следующего учебного года (2019/2020). В этом году в выпускных классах такого предмета не будет.

Речь об освоении некоторых профессий, это не будут классические уроки труда, на которых мальчиков учат делать табуретки, а девочек — шить юбки.

Как сообщила на пресс-конференции 27 августа заместитель начальника главного управления общего среднего, дошкольного и специального образования, начальник управления общего среднего образования Министерства образования Ирина Каржова, перечень профессий, по которым будет осуществляться обучение, определяется с учетом запросов учащихся и возможностей школы.

В комментарии для Naviny.by пресс-секретарь Минобразования Людмила Высоцкая подчеркнула, что речь о том, что шесть часов в неделю трудом будут заниматься все школьники, не идет.

«В каждой школе, — пояснила Высоцкая, — могут создаваться профильные классы, дети в которых изучают определенные предметы на повышенном уровне. В таких классах не будет предмета „трудовое обучение". Такой предмет будет в базовых классах, которых в целом по стране больше, чем профильных».

Чтобы попасть в профильный класс, средний балл успеваемости у ученика должен быть не менее «6», а оценка по профильному предмету «7» и выше.

Профильное обучение вернули в школы в 2013 году. Система такого обучения создавалась с 2006 года, но была практически ликвидирована в 2008-м в связи с переходом с 12-летнего на 11-летнее среднее образование (это решение критики называли «антиреформой образования»). Тогда были сокращены часы на углубленное и дополнительное изучение профильных предметов.

Теперь профили есть в каждой гимназии, а в лицеи (не путать с профессиональными, бывшими ПТУ) дети поступают сразу по профилям и сдают соответствующие экзамены.

Как правило, если в школе два десятых класса, то один из них — профильный, но есть школы, где профильных классов нет.

С 2015 года в некоторых школах появились и профессиональные профильные классы — педагогические, военно-патриотические, правовые, обучение в которых направлено на подготовку к получению конкретных специальностей.

В прошлом году, например, педагогические классы функционировали в 23 учреждениях образования, где обучались 240 учащихся. Из них только каждому пятому дали рекомендацию для поступления в профильный педагогический вуз, а поступили туда около 16% от общего количества выпускников педклассов, причем больше половины — из одной гимназии.

В Минске есть школы, где в этом году десятиклассникам предложили два варианта обучения — базовый или педагогический класс.

Мама мальчика, который оказался в базовом классе школы № 6 (второй вариант был как раз педагогический класс), рассказала, что детям дали большой выбор специальностей на трудовом обучении.

«В перечне — делопроизводитель, исполнитель художественно-оформительских работ, мастер по маникюру, медицинский регистратор, дизайнер ландшафта, оператор ПЭВМ, официант, парикмахер, визажист, повар, слесарь по ремонту автомобилей и рабочий зеленого строительства. Список, вроде, и большой, но есть ограничения по состоянию здоровья, а в группах количество мест ограничено», — сказал она.

На каждую профессию каждой школе отведено определенное количество мест — одинаковое вне зависимости от спроса. Профессиональной подготовке будет отдан весь учебный день в среду. В субботу в расписании — обычные школьные предметы.

«В нашей школе дети и в прошлом году занимались трудовым обучением в виде профессиональной подготовки. Их ознакомили с несколькими профессиями. Не уверена, что в 10-м классе каждую неделю стоит терять целый школьный день, чтобы обучать детей специальностям, по которым не факт, что они будут работать», — сказала мама ученика.

**Как отличить козу от коровы**

Идея об увеличении количества часов трудового обучения, судя по всему, родилась не в кабинетах Минобразования. В августе 2017 года на Республиканском педсовете о недостатках системы говорил президент.

«Надо посмотреть, вернуться к тому, как это у нас было. У нас в школе мы работали на приусадебных участках. Мы обязаны были летом три недели или месяц проходить трудовое обучение, практику. Не везде это есть. Вот и доработались, что дети на селе не то что корову от быка — козу от коровы отличить не могут. Это же катастрофа», — возмущался Александр Лукашенко.

Вскоре после этого тогдашний заместитель премьер-министра Василий Жарко на совещании в Министерстве образования поставил задачу «повышать качество трудового обучения и воспитания в школе».

«Тех учебных часов в базовой школе, которые есть на сегодняшний день, явно недостаточно. Не говоря уже про 10-11-е классы, где эти часы на трудовое обучение вообще не предусмотрены. В Кодексе об образовании тоже не прописано трудовое обучение в старших классах. Этот вопрос надо продумать», — заявил Жарко.

Продумали так — если в школах нет возможности заниматься профобучением, оно будет проходить в учреждениях профессионально-технического или среднего специального образования, на базе вузов и учреждений дополнительного образования.

В Минобразования подчеркивают, что дети будут иметь выбор профессий. Это означает, что в учебно-производственных комбинатах и профессиональных лицеях прибавится работы, от чего, можно предположить, выиграют педагоги и мастера.

Но поможет ли введение трудового обучения для старшеклассников сориентировать их на продолжение образования в профессиональных лицеях, можно будет оценить лишь через год-другой. Пока же профлицеи испытывают хронические проблемы с набором учащихся, почти ежегодно объявляется дополнительный набор.

Например, в этом году в шести столичных лицеях был недобор на строительные специальности. Оставались места в колледже декоративно-прикладного искусства и в профессионально-техническом колледже строительства и коммунального хозяйства.

К слову, профессиональный лицей № 10 строительства план набора все же выполнил и станет в этом году базой для проведения уроков труда сразу для 25 школ Центрального и Московского районов….

**Елена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 16.09.2018 у 15.40
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.